АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

6 – 12 ЛІСТАПАДА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ ЦАНА 6000 РУБЛЁЎ
№45 (185

ВАЛОЖЫН

## Ці будзе таннейшая кілбаса?

Камбінат кааператыўнай прамысловасці асвоіў выпуск новай прадукцыі – вяндліны "Асобая". Плануецца прадукцыю кілбаснага цэха выпускаць з чэшскімі дабаўкамі. За кошт таго, што катлы кацельні пераведзеныя з вадкага паліва на газ, павінен знізіцца яе сабекошт.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

СМАРГОНЬ

## З павагай і клопатам

ставяцца да людзей сталага ўзросту мясцовыя ўлады. У 1993 годзе тут прынялі комплексную праграму па праблемах пажылых людзей. Перыядычна райвыканком слухае кіраўнікоў аддзела сацыяльнай дапамогі аб ходзе выканання гэтай праграмы. На чарговым пасяджэнні ішла гутарка менавіта пра гэта. Колькасць пажылых людзей, якія маюць вострую патрэбу ў дапамозе, расце. Калі летась работнікі аддзялення сацыяльнай дапамогі на даму абслугоўвалі 489 састарэлых людзей, то сёлета яны наведваюцца ў двары і кватэры 637 чалавек.

Раённыя ўлады выдзелілі сёлета састарэлым людзям для закупкі бульбы 45 мільёнаў рублёў. На суму 133,7 мільёна рублёў аказаная ім іншая дапамога. Раённы выканаўчы камітэт даручыў тэрытарыяльнаму медыцынскаму аб'яднанню на зімовы час дадаткова да існуючых адкрыць яшчэ 10 ложкаў з частковай аплатай за гэтыя паслугі для састарэлых і адзінокіх людзей.

*Павел МАКЛЮК.*

ІВЯНЕЦ

## Камбінат працуе на раён

Вытворчы камбінат сам зарабляе грошы. Акрамя таго, што навучае школьнікаў "хадавым" спецыяльнасцям (вадзіцель, трактарыст, швачка, малодшая медсястра, умелец мастацкай вышыўкі), платна рыхтуе (дарослае насельніцтва) вадзіцеляў катэгорыі В. Тройчы камбінат хацелі закрываць. Але ён выгрываў. Бо 40 працэнтаў выпускнікоў камбіната працуюць у раёне па абраных спецыяльнасцях. На гэтыя выхадныя вытворчы камбінат адзначае сваё 20–годдзе.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

## Сталічны дэсант

Першамайскі раён Мінска аказаў жыхарам Ільянскага сельвыканкома дапамогу. У рамках акцыі "Жанчыны сталіцы – жанчынам глыбінкі" дэсант урачоў "высадзіўся" у вёсцы. Прыехалі спецыялісты, якіх у раёне няма, і за кансультацыямі па жаночых захворваннях людзі павінны былі ехаць у сталіцу. Акрамя арганізаванага ўрачэбнага прыёму, мінчане прывезлі падарункі: бялізну, трыкатаж – дарослым, піражныя – дзецям.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

## Алені, як звычайна, лепей

19 плямістых высакародных жывёлін з'явіліся ў мясцовым лясгасе. Завезлі сюды аленяў з Далёкага Усходу.

Гэты від аленя каштоўны для вытворчасці пантакрыну, лячэбнага танізіруючага сродку. Фінансаванне праекту ажыццявілі сумеснае прадпрыемства "Лукойл Беларусь" і Валожынскі лясгас. Плануецца, што ў хуткім часе тут з'явіцца новая партыя аленяў. Усяго іх мяркуюць завесці сто асобін.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*

РЭАРГАНІЗАЦЫЯ

## Вілейка здалася раёну

***ВІЛЕЙКА. У сераду, ў адзін і той час, тут пачаліся сесіі гарадскога і раённага Саветаў дэпутатаў. Пытанне было адно – аб згодзе дэпутатаў на аб'яднанне дзвюх тэрытарыяльна–адміністрацыйных адзінак.***





*Іван Шнітоўскі і Пётр Юдо цяпер кіруюць, адпаведна, раёнам і горадам. Як складуцца іхнія лёсы?*

ФОТА З АРХІВА «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ».

### Горад

– Пытанне цяжкае і вельмі балючае, – канстатавала старшыня гарсавета **Ганна Шэпелева.**

Ад аблвыканкома прысутнічаў намеснік старшыні **Франц Чарнушэвіч**. Ён сказаў, што мэта аб'яднання – удасканаленне структуры кіравання. Вілейка застанецца горадам абласнога падпарадкавання. Захаваецца і бюджэтнае фінансаванне. Штат работнікаў вертыкалі зменшыцца, аднак усе людзі будуць працаўладкаваныя. Ужо "прыкідваўся" новы штатны расклад. Прыкладам, будуць новыя пасады – намеснікаў старшыняў райсавета і кіраўніка спраў, першага намесніка старшыні райвыканкома. Што тычыцца першай асобы ў раёне, вобласць мяркуе прызначыць старшынёй **Івана Шнітоўскага, Пятра Юдо** – першым намеснікам.

Сярод дэпутатаў не прагучала ніводнага выказвання за аб'яднанне. Але дырэктар гімназіі **Барыс Кантаровіч** сказаў: гэтае пытанне не ў сферы нашага ўплыву. Рашэнне прымаем прымусова–добраахвотна.

Дырэктар завода "Зеніт" **Мікалай Арсеньеў** гэты дзень параўнаў з пахаваннем, бо шмат чаго залежала ад першых асоб.

Дырэктар ААТ "Буддэталь" **Сяргей Жук** прывёў прыклад. Калі ў фірме справы ідуць не надта, перасоўванне мэблі сітуацыю не выправіць. Вілейчане да аб'яднання ставяцца іранічна.

Пракурор раёна **Аляксандр Мароз** выказаў занепакоенасць: не ў той час аб'ядноўваемся. Наперадзе зіма, новы бюджэтны год. І так цяжка вырашаць з гэтым звязаныя пытанні.

Дырэктар гармалзавода **Валерый Дубіна** шчыра сказаў, што не падрыхтаваны прагаласаваць ні "за", ні "супраць". На прадпрыемстве аб'яднанне не падтрымліваюць. Людзі занепакоеныя, як будуць жыць далей. Сёння, да прыкладу, тэмпература ў кватэры +20. Пасля аб'яднання будзе +12?

Старшыня гарвыканкома **Пётр Юдо** сказаў:

– Хто выйграе, не ведаю. Але горад прайграе. Нават сабе не магу растлумачыць, для чаго аб'яднанне робіцца. Два гады вядзецца гэтая размова. 61 чалавек у апараце кіравання горадам. Аб'яднанне, скарачэнне – у такіх абставінах цяжка працаваць.

Дэпутаты вырашылі галасаваць тайна. Ніхто адкрыта не хоча браць на сябе адказнасць за далейшы лёс горада і раёна. Амаль усе яны супраць аб'яднання. Але ёсць каманда зверху. Пасля гэтай сесіі, калі яна не прыме патрэбнае рашэнне, будуць яшчэ – да прыняцця.

З 11 прысутных 8 дэпутатаў прагаласавалі за аб'яднанне, 2 устрымаліся, толькі 1 быў супраць.

*Васіль САВІЦКІ.*

### Раён

Дэпутаты раёна адзінагалосна адкрытым галасаваннем выказаліся за аб'яднанне. Сесія доўжылася менш за паўгадзіны.

Да дэпутатаў звярнуўся начальнік упраўлення арганізацыйна–кадравай работы Мінскага аблвыканкома **Канстанцін Хвянько**, які дэтальна расказаў аб працэдуры аб'яднання горада і раёна, спасылаючыся на нарматыўныя дакументы. Ён жа адказаў на пытанні з месца пра практыку і вынікі аб'яднання Дзяржынска і Дзяржынскага раёна; пра плануемае скарачэнне апарата на 6–8%.

Пасля прыняцця сесіяй рашэння прадстаўнік вобласці падзякаваў усім дэпутатам "за прынятае імі правільнага рашэння" і абнадзеіў іх тым, што ў Дзяржынску і раёне ўсе 6–8% былі працаўладкаваныя.

На сесіі прысутнічаў 31 дэпутат з 35 абраных. Двое з адсутных знаходзяцца на санітарна–курортным лячэнні, аднак і яны прыслалі сваю пісьмовую згоду.

*Іна ВЯЗЕВІЧ.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## У Палачанах жаўтуха ідзе ў наступ

МАЛАДЗЕЧНА. За апошні тыдзень зноў ускладнілася сітуацыя з захворваемасцю вострымі кішэчнымі інфекцыямі, асабліва ў арганізаваных калектывах. Калі за ўсё першае паўгоддзе ў адным дзіцячым садку было зарэгістравана 2 выпадкі захворвання на дызентэрыю, то толькі за адзін гэты тыдзень такія выпадкі зарэгістраваныя ў 6 дзіцячых садках (№№ 2, 8, 9, 16, 29, 31) і 2–х школах (№№ 5 і 9).

У асноўным, выпадкі адзінкавыя; прычынай паслужыла заражэнне па-за дашкольнай установай. Аднак у дзіцячым садку №9 радыёзавода "Спадарожнік" у адной з груп адбылося заражэнне некалькіх дзяцей. Крыніцай, верагодна, паслужылі ці захварэлае дзіця, ці выхавацель, а з-за парушэння правілаў асабістай гігіены і рэжымных патрабаванняў адбылося інфіцыраванне іншых дзяцей кантактна-бытавым шляхам.

Сітуацыя адразу была стабілізаваная, не дапушчана распаўсюджванне інфекцыі. За парушэнні загадчыца дзіцячага садка прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці.

Адной з прычын падобнай сітуацыі з'явіліся фармальныя адносіны бацькоў і работнікаў дзіцячых дашкольных устаноў да ранішняга прыёму дзяцей у садку, калі бацькі абавязаныя не кідаць дзяцей каля варот дзіцячага садка, а паведаміць выхавацелю пра стан здароўя дзіцяці.

Адзначаныя сур'ёзныя парушэнні ў арганізаваных калектывах і на раёне.

У дзіцячым садку-школе в. Цюрлі для прыгатавання ежы выкарыстоўваліся прадукты з сышоўшымі тэрмінамі рэалізацыі. Парушаліся правілы захоўвання прадуктаў, якія хутка псуюцца, і іншыя рэжымныя патрабаванні.

На харчаблоку Палачанскай СШ груба парушаліся правілы мыцця посуду і іншыя нормы. За дапушчаныя парушэнні загадчыца дзіцячага садка і повар аштрафаваныя.

У в. Палачаны склалася дрэнная сітуацыя па захворваемасці вірусным гепатытам "А" (хваробай Боткіна). На працягу двух тыдняў зарэгістравана 5 паслядоўных выпадкаў захворваемасці. Верагоднай прычынай паслужылі непаладкі ў сістэме водапровода вёскі, на што ўказвалі хворыя. Аднак, па выніках кантрольных даследаванняў вады, яна адпавядае ўстаноўленым патрабаванням. Медыцынскімі работнікамі намечана правядзенне шэрагу мерапрыемстваў, аж да правядзення падворных абходаў насельніцтва, для выяўлення скрытых формаў захворваемасці. Інкубацыйны перыяд захворвання дасягае 35 дзён.

Сітуацыя з вострымі рэспіраторнымі захворваннямі палепшылася, за тыдзень іх зарэгістравана 897 выпадкаў.

*Міхаіл Грабоўскі, намеснік галоўурача Маладзечанскага РЦГіЭ.*

ЗЕМЛЯКІ

## «Дабрынёй ён пайшоў у мяне»





*Будучы кампазітар*

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА МАЦІ КАМПАЗІТАРА.

***У канцэртнай зале "Мінск" прайшоў юбілейны канцэрт кампазітара Алега ЕЛІСЕЕНКАВА (у мінулую суботу некаторыя фрагменты паказвалі па тэлебачанні, заўтра – працяг перадачы). Наша "зорка" жыве і працуе ў Мінску. А за 80 км ад сталіцы, у Маладзечне, жыве ягоная маці Антаніна Сцяпанаўна. Да яе мы і напрасіліся ў госці.***

– Алега з дзяцінства цягнула да музыкі, – расказвае Антаніна Сцяпанаўна, – у год Алег яшчэ добра не гаварыў, аднак выводзіў мелодыю "Подмосковные вечера". Наша сям'я некаторы час здымала кватэру. Гаспадары **Роза Зяблікава, Яўген Вахмянін** музычна адукаваныя. Алега звычайна ставілі на канапу. Яўген Мікалаевіч грае на баяне. Роза Анатольеўна жартам нешта падрыфмуе, і мой сынуля спявае, не заўсёды разумеючы сэнсу: "За рекой, за лесам солнышко садится. Отчего Олежке дома не сидится".

А ў школьнай самадзейнасці без яго ніколі не абыходзіліся. Дома Алег заўсёды мурлыкаў мелодыі, чым бы ні займаўся. Той жа Вахмянін прадказваў быць яму музыкантам.

***– А кім Алег марыў стаць?***

– У класе пятым – артылерыстам. Бацька палохаў: "Вось у лес зашлюць. Там камары памерам з пчол".

Алег не не быў ні выдатнікам, ні троечнікам. Любіў матэматыку, гісторыю (настаўнік **Уладзімір Клешч** зацікавіў сваім прадметам). Пра літаратуру мог сказаць – ледзь адседзеў ("Капитанскую дочку" вывучалі). Сам жа шмат чытаў: Купера, Дзюма. За два дні "праглытваў" тоўстыя кнігі. Пісаў вершы. Мне, чамусьці, не паказваў, раіўся з бацькам. А той быў да творчасці строгі. Памятаю, гаворыць: "Скажы, сын, чаму ты тут ужыў словазлучэнне "барабанны бой"? І як сам гэта разумееш?". Захавалася віншаванка мне ад Алега – прыкладна, пяцікласніка. Вось вытрымка:

*Спасибо за ласку,*
*заботу твою,*
*Что нас не даёшь*
*никогда ты в беду.*

***Заканчэнне на 2–й стар.***

СТАРЫ АЛЬБОМ



Насілава 1937 года. Тут каталіцкі святар з Маладзечна ў прысутнасці праваслаўнага духавенства асвячае новую "паўшэхную" школу, у якой вучыўся і мой бацька.

*Алесь ЦАДКО.*

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА АДНАГО З ПЕРШЫХ ВЫПУСКНІКОЎ НАСІЛАЎСКАЙ ШКОЛЫ СЫМОНА ДЗЯНІСА

ЗЕМЛЯКІ

# Дабрынёй ён пайшоў у мяне

*Пачатак на 1–й стар.*

***– На сямейныя святы сын заўсёды нешта дарыў?***

– Абавязкова. Калі вучыўся ў кансерваторыі, падарыў мне настольную лямпу з рыбкамі; "каб вочы не балелі, калі правяраеш сшыткі", – так ён мне і сказаў.

А потым заўсёды дарыў і дорыць ружы, бо яны мне найбольш падабаюцца: "Ружа – царыца кветак".

***– Алег скончыў СШ №2?***

– Спачатку вучыўся ў СШ №2. Заняткі праводзіліся ў 3 змены. Школа літаральна задыхалася. Дзеля прыкладу мы адныя з першых перавялі сына ў СШ №7. Ён таксама скончыў музычную школу, Маладзечанскае музвучылішча, кансерваторыю, аспірантуру. Адслужыў армію.

***– Алег падтрымлівае сяб-***



***роўскія адносіны з маладзечанцамі?***

– Сяброў тут у яго шмат – **Слава Навойчык, Гена Лагутка, Юра Мурашоў, Сяргей Улашчык**. Памятаю, з **Чыжыкавым** бегалі ды на клумбу наступілі. Чую – як табе не сорамна, а яшчэ сын настаўнікаў.

***– Раскажыце пра сябе, нагул, пра вашу сям'ю.***

– З 1959 года мы жывем у Маладзечне. Я настаўніца. Маю тры дыпломы – педвучылішча і два інстытуцкія. 30 год і тры гады (як у казцы Пушкіна) адпрацавала ў сярэдняй школе №2. Муж **Мікалай Георгіевіч** працаваў у музычным вучылішчы, стварыў харавое аддзяленне. Дачка **Вольга** – інжынер–праграміст, працуе ў Мінску.

***– У вашай маладзечанскай кватэры бывалі "зоркі" беларускай эстрады?***

– І не аднойчы. **Саша Саладуха** і начаваў. А ведаеце, першая музыка Алега на прафесійнай сцэне была не эстрадная. У сезоне 1981–82 года Мінскі камерны аркестр выконваў сімфонію №2 Елісеенкава.

***– Выбранніца Алега – карэнная мінчанка?***

– **Танюша** з Маладзечна. Жывуць у аднапакаёўцы.

***– Алегу Елісеенкаву 40, музвучылішчу – таксама. Цікавае супадзенне.***

– Для вучылішча гэта не ўзрост. Аднак установа вядомая і паважаная ў рэспубліцы. А для Алега ўзрост самы працаздольны.

***Васіль САВІЦКІ.***

СУСТРЭЧЫ

# "Мужичок с гармошкой, поиграй немножко..."

ВАЛОЖЫН. У рэдакцыі райгазеты прайшла сустрэча з 28–гадовым масквічом Дзмітрыем Пучковым. Свой пешы музычны марафон па маршруце "Масква–Мінск–Калінінград" ён прысвячае 60–годдзю з дня нараджэння У. Высоцкага.

Дзмітрый – незвычайны чалавек. Гаўрошам называлі яго маскоўскія мас–медыя падчас жнівеньскага путчу 1991 года. Тады ён быў у гушчы падзей, спяваў разам з вядомымі артыстамі.

Па прафесіі ён артыст; а марафон гэты ўжо не першы. У 1996 годзе ён на веласіпедзе праехаў з Масквы да Хабараўска (прысвячаў вандроўку прыпеўкам). Дарэчы, іх у "скарбонцы" Дзмітрыя ажно сем з паловай тысяч.

З Валожына хлопец з гармонікам рушыў у Ліду.

***Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.***

КУЛЬТУРА

# Усё прыгожае просіцца ў душу

***МАЛАДЗЕЧНА. Заканчваецца выстаўка фотаработ Аляксея Фяцісава.***

– Займацца фатаграфіяй я пачаў у сталым узросце, – расказвае майстар, – мне было тады 42. У 1935 годзе ў нашу вёску ўпершыню прывезлі кіно. Гэта была кінастужка "Чапаеў". Як цяпер памятаю, білет каштаваў 11 капеек, а маці змагла даць толькі 10. Я не ведаў, як прайсці на сеанс, нават плакаў, так хацелася трапіць на фільм. І раптам кінамеханік спытаўся:

– Хто дапаможа круціць фільм?

Адразу некалькі хлопцаў кінуліся дапамагаць, але я быў першы. Фільмы тады складаліся з некалькіх частак, кожную з якіх мусіў адкруціць адзін з хлопцаў. Калі мая чарга круціць фільм скончылася, выявілася, што хлопцы, якія павінны былі мяне падмяніць, паснулі. І я адкруціў усе 9 частак. Пасля сеанса я прыйшоў дадому і падрабязна–падрабязна пераказаў сюжэт родным. Тады мяне і зацікавіла: як жа на экране ўзнікаюць прадметы, людзі, рухі.

А ў 1936 годзе ў вёску прыехаў першы фатограф. Ён пасяліўся ў нашай хаце, і за тое, што мы пусцілі яго жыць, бясплатна сфатаграфаваў мяне і майго сябра. Пазней я вельмі хацеў адшукаць той здымак, але ні ў каго з родных знайсці яго мне не ўдалося.

– А з чаго пачыналіся вашыя спробы?

– Мой першы здымак (на ім партрэт 16–гадовай дачкі) і цяпер вісіць у кватэры. Пазней пачаў больш сур'ёзна займацца здымкамі. Калі ж мяне захапіла кіно, то прадаў фотаапарат, павелічальнік і набыў кінакамеру.

– Ці былі якія дасягненні ў галіне кіно?

– Першую маю спробу нельга назваць фільмам. Гэта быў невялічкі рэпартаж пра тое, як у Маладзечне на ЗЛМК адлівалі штык для мемарыялу Брэсцкай крэпасці–героя. А пасля падумаў, што трэба прасачыць яго лёс і далей. Паехаў у Брэст на адкрыццё мемарыялу, зрабіў фільм, які адвёз на конкурс у Мінск, дзе ён заняў 3 месца.

У 1971 годзе зняў фільм "Бабье лето". На конкурс я яго павёз дзеля таго, каб паглядзець, як здымаюць іншыя, а ён, нечакана для мяне, прайшоў абласны, рэспубліканскі конкурсы і трапіў на І–ы Усесаюзны фестываль аматарскіх фільмаў, што праходзіў Маскве. Фільм на фестывалі атрымаў дыплом І–й ступені і залаты медаль.

– І ўсё ж вы зноў звярнуліся да фатаграфіі.

– Адчуў, што яна мне неяк бліжэй.

– Дзе вы знаходзіце сюжэты для здымкаў, як вам удаецца адшукваць такія прыгожыя мясціны?

– А навошта шукаць? Усё прыгожае – побач, проста просіцца ў душу. Не трэба нікуды далёка ехаць, каб убачыць прыгожыя мясціны. Многія здымкі прыроды я раблю ў Вялікім Сяле ці нават у горадзе. Пазаўчора, напрыклад, зірнуў раніцай у акно, а на ім – кропелькі вады, і сонца гарыць у вокнах будынка насупраць. Такі бляск, такое харааство, як тут утрымаешся і не здымеш?!

Ведаеш, апошнім часам лаўлю сябе на думцы, што, можа, ужо хопіць з мяне, навошта ўсё гэта? Шчыра кажучы, бываюць моманты, што, здаецца, пайсці б да якога возера ды закінуць туды фотаапарат. А пасля думаю: "Такія кругі прыгожыя пойдуць, што абавязкова захочацца зрабіць яшчэ адзін здымак".

Вытрымкі з кнігі водгукаў:

"Вы сталі вялікім мастаком. Я Вас ведаю больш за 30 год і бачыў вашыя фотаздымкі тады і цяпер. Дзякую за радасць і мастацтва". Аўсянікаў.

"Цудоўна! Цудоўна! Цудоўна! Вашае мастацтва радуе душу кожнага". Д. Жук.

"Я ўдзячная Богу і Вам за вашу творчасць".

***Альберт АЎЧЫНІКАЎ.***



Просім карыстальнікаў электроннай поштай дасылаць свае паведамленні на новы адрас "РГ":
**region_news @ usa.net**



## Як знайсці «Рэгіянальную»?

***Вялікі Гасцінец***



АПАНТАНЫЯ

# «Я ўзрадавалася, што да мяне прыехалі сябры»

**МАЛАДЗЕЧНА. Ала Пугачова збірае сяброў на Каляды. Мясцовая кампазітарка Алена Атрашкевіч зрабіла гэта ўвосень.**

– Я ўзрадаваная, што да мяне прыехалі сябры, – сказала Алена напачатку канцэрта ў зале музвучылішча, – а яшчэ мы хочам высветліць стан дзіцячай эстрады.

Вілейчане прывезлі шлягеры, смаргонцы – танцы, а мясцовыя таленты спявалі песні, напісаныя Атрашкевіч. Госці і гаспадары часцяком сустракаюцца на беларускім тэлебачанні. А каб вось так, у творчай неафіцыйнай абстаноўцы, – упершыню.

Алена Атрашкевіч вядзе эксперыментальны клас эстраднай творчасці.

– Акрамя мясцовых "зорачак" **Насці Жук, Каці Станкевіч, Сашы Салаўёва, Дзімы Мінько**, да нас з Вілейкі ездзіць **Даша Урызчэнка**, са Смаргоні – **Рома Івашчанка**. Калі маленькі выканаўца прыходзіць да мяне, я гэтым "падаграюся" і пішу менавіта яму. Бо бачу яго здольнасці, жаданне працаваць. Адну песню рыхтуем каля трох месяцаў. Фанаграмы запісваем у прафесійных аранжыроўшчыкаў, за грошы. Выступаем не так часта, як хацелася б, – не маем уласнай апаратуры.

**Таццяна Радчанкова**, мастацкі кіраўнік смаргонскага творчага аб'яднання "Мішутка":

– Мы займаемся танцамі. За заняткі бацькі плацяць. У нас самастойная арганізацыя, і гэтая плата нас не выратуе. Жывем за кошт арганізацыі платных заняткаў аэробікай, свайго танцавальнага клуба "Аазіс" – лепшая дыскатэка ў горадзе. Танцавальны калектыў мае многа ганаровых званняў і мала канкурэнтаў па вобласці. А ў Смаргоні харэографы – нашы выпускнікі.

**Нэлі і Алег Зайцавы**, кіраўнікі ўзорнай эстраднай студыі "Экспромт" Вілейскага ГДК:

– У студыі 17 салістаў. За 5 год на беларускім тэлебачанні запісана 59 нашых песень. Адныя выйшлі ў эфір, іншыя глядач хутка ўбачыць і пачуе. Мы не ставім на мэце выхаваць прафесійных вакалістаў. Аднак імкнемся дасягнуць пэўнага ўзроўню. Самі запісваем фанаграмы. На канцэрт прывезлі славутае трыо і 9–гадовую **Кацю Сушко**.

*Васіль САВІЦКІ.*



*Нэлі і Алег Зайцавы, кіраўнікі ўзорнай эстраднай студыі "Экспромт" Вілейскага ГДК*



*Таццяна Радчанкова, мастацкі кіраўнік смаргонскага творчага аб'яднання "Мішутка"*



*Алена Атрашкевіч з выхаванцамі*

ФОТА ВАСІЛЯ САВІЦКАГА.

# Гамарджоба, Беларусь!

***У час адной з вандровак апынуўся ў скальным горадзе Вардзіа, пабудаваным на рубяжы XII–XIII стагоддзяў па загадзе царыцы Тамары.***

Аднойчы раніцой мы прачнуліся ад раскацістага рэха, якое пранеслася па цясніне, нарадзіўшыся на пагранзаставе (3 км ад турэцкай граніцы). Па мастку, перакінутым праз бурлівую Куру, да нас ішлі тры грузіны. Першы меў на поясе кінжал, другі нес баранчыка, трэці ў адной руцэ трымаў збан, у другой – вузел.

– Гамарджоба! – павіталіся "дзеці гор".

– Добры дзень!

– Адкуль вы?

– З Беларусі.

– Ведаем, Прыбалтыка, – паказалі свае веды ў геаграфіі нашчадкі абрэкаў. – Будзем знаёміцца.

Праз 10 хвілін з дапамогай аднаго толькі кінжала баранчыка раздзелалі пад арэх. Тут жа гэтыя кавалкі былі адбітыя ручкай кінжала, пасля чаго апушчаныя ў марынад, прыгатаваны з алею, воцату, цыбулі, часнаку, солі, перцу.

Мы, у сваю чаргу, пачалі чысціць бульбу і наразаць сала. Гера (той, што з кінжалам), калі ўбачыў сала, падышоў і пакаштаваў кавалачак. Тут жа ён пачаў насаджваць на шампур па чарзе кавалак мяса, цыбулю, кавалак сала і г. д.

Хвілін праз 10 мы пілі маладое віно, падымалі тосты за знаёмства і сяброўства, закусвалі сапраўдным шашлыком. Грузінская бараніна, запечаная паміж беларускім салам, была надзіва далікатная.

Мінула амаль 10 год, а пра гэты цудоўны шашлык я не магу забыцца да гэтага часу.

Для тых, хто пажадае зрабіць такі, паведамляю:

кошт філе баранчыка на мінскай Камароўцы – 300000 рублёў, а сала, у залежнасці ад таўшчыні, – ад 125000 да 160000 рублёў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

КРЫМІНАЛ

# Непаўналетнія бегаюць шпарка

***ВІЛЕЙКА. Нядаўна мясцовая міліцыя спыняла машыны і ў горадзе, і за яго межамі.***

Адшукваўся 16–гадовы хлопец, які з памагатым падчас вяселля залез у кватэру бацькоў аднаго з маладых па вуліцы імя М. Горкага.

Прыхапілі відэакамеру, грошы, падарункі. Пазней злачынцаў затрымалі. Старэйшага – 16–гадовага – змясцілі ў следчы ізалятар. Там яго прыхапіў апендыцыт. Пасля аперацыі ў бальніцы быў наладжаны міліцэйскі пост. Але непаўналетні змог збегчы.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 28.10 | 4.11 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | – | **231** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | – | – |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 138 | **151,8** |
| Селядзец | 1 кг | 194 | **200** |
| Рыс | 1 кг | 115 | **115** |
| Цукар | 1 кг | 75 | **70** |
| Грэчка | 1 кг | 99 | **95** |
| Алей | 1 л | 185 | **180** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | – |
| Маянэз | 250 г | 50 | **50** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 220 | **220** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 60 | **60** |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 65 | **65** |
| Лімоны | 1кг | 199 | **198** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 60 | **60** |
| Масла | 1 кг | 150 | **160** |
| Тварог | 1 кг | 40 | **60** |
| Малако | 1,5 л | 20 | **16** |
| Бульба | 1 вядро | 70 | **75** |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | – | – |

# Камароўка, 1 лістапада

Ад 8 раніцы на месцы, дзе гандлююць яйкамі з машыны, пачала расці чарга. Да 10–00, калі прыехала машына, даўжыня чаргі складала не менш за 150 метраў (каля 300 чалавек).

Кошт за дзесятак яек з машыны – 36000, у бабулек – да 150000. Напэўна, гэтыя амаль залатыя яйкі знесла казачная курачка.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

# Смаргонь- горад курцоў

З хуткасцю эпідэміі ляціць па горадзе навіна: "Цыгарэты даюць!". І вось ужо гандлёвая зала таго ці іншага магазіна, які гандлюе гэтым "стратэгічным таварам", паўнюткая пад завязку. Трое з чатырох жадаючых атаварыцца пяццю нармíраванымі пачкамі, – жанчыны. Ад ружавашчокай семнаццацігадовай дзяўчыны да састарэлай бабулі, якая не мае здароўя, затое мае вольны час.

Адныя радыя пачаставаць мужоў, іншыя задымяць самі. Ну, а трэція прапаноўваюць "Астру", "Прыму" ці "Гродна" з–пад крыса таму, хто не меў часу адарвацца ад станка, а закурыць вельмі хоча.

Нават просценькую справу ў чарговы раз здолелі ператварыць у буйную праблему. А цяпер гадамі будзем яе вырашаць.

*Павел МАКЛЮК.*

